Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 780.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 22 верасня 1998 г. № 100 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Стоп-рэгістрацыя

*Усе фірмы чакае перарэгістрацыя*

**З 18 верасня ў Беларусі «да асобага распараджэння прэзідэнта» спынена рэгістрацыя (перарэгістрацыя) суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку прыватных прадпрымальнікаў.**

Тэлеграма такога зместу за подпісам Аляксандра Лукашэнкі была накіраваная старшыням абласных, гарадскіх і раённых выканкамаў, а таксама міністру знешніх эканамічных сувязяў і міністру юстыцыі, на якіх ускладзеная персанальная адказнасць за выкананне гэтага распараджэння.

Гэта ўжо другая па ліку забарона на рэгістрацыю прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў. Першая адбылася ў 1996 годзе і пацягнула за сабой агульную перарэгістрацыю ўсіх прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў. Вынікам мінулай перарэгістрацыі, па афіцыйных дадзеных, стала ліквідацыя 124 тысячаў юрыдычных асобаў і прадпрымальнікаў ці 45 працэнтаў ад іх агульнай колькасці.

Пасля новай забароны чакаецца ўвядзенне больш жорсткага парадку рэгістрацыі фірмаў і прадпрымальнікаў. Старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Мікалай Дзямчук лічыць, што існуючы парадак рэгістрацыі быў даволі ліберальны, надобрасумленныя камерсанты карысталіся гэтым, ухіляліся ад выплаты падаткаў.

На думку саміх прадпрымальнікаў, Беларусь і так не з'яўляецца прывабным месцам для вядзення бізнесу. Парадак рэгістрацыі не вылучаўся ліберальнасцю. Таму цяпер можна меркаваць, што згодна з новым парадкам заснаваць фірму будзе вельмі няпроста.

**Алесь САДОЎСКІ**

## СНІД: на першым месцы Гомельшчына

**На сённяшні дзень у Беларусі выяўлены 2 тысячы 173 ВІЧ-інфіцыраваныя. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі дырэктар Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Валерый Глазоўскі.**

Лідэрам па колькасці выяўленых вірусаносьбітаў застаецца Гомельская вобласць. Большасць носьбітаў СНІДу прыпадае на Светлагорскі раён — 1.265 чалавек. Трывожная сітуацыя склалася таксама ў Жлобінскім раёне — 262 ВІЧ-інфіцыраваных, і ў Гомелі — 80 чалавек. Па словах Глазоўскага, паступова да гэтых гарадоў «падцягваюцца» Рэчыца (37 чалавек) і гарадскі пасёлак Акцябрскі (49 носьбітаў СНІДу).

228 ВІЧ-інфіцыраваных зарэгістраваная ў Мінску. Яшчэ 32 вірусаносьбіты выяўленыя ва ўсёй Мінскай вобласці. Па іншых абласцях склалася наступная сітуацыя: Магілёўская — 65 ВІЧ-інфіцыраваных; Брэсцкая — 41; Віцебская вобласць — 34; Гродзенская — 10. Па-ранейшаму асноўнымі пераносчыкамі інфекцыі застаюцца людзі, якія ўжываюць наркатычныя прэпараты унутрывенна: 80 працэнтаў заражэнняў адбываецца менавіта такім шляхам. Пры гэтым, па словах Глазоўскага, яны выкарыстоўваюць адносна танныя опіумныя прэпараты. У меншай ступені, лічыць ён, заражэнне пагражае тым, хто ўжывае больш дарагія віды наркотыкаў. Як правіла, такія людзі больш асцярожна ставяцца да гэтай праблемы, выкарыстоўваючы для ін'екцыяў аднаразовыя шпрыцы.

*БелаПАН*

## З новых «тысяч» знялі «Пагоню»

**Нацыянальны банк Беларусі на гэтым тыдні запускае ў абарот дзве купюры новага ўзору: тысяча і пяць тысяч рублёў. На іх ужо не будзе «Пагоні» — старажытны беларускі герб заменяць простыя надпісы «1000» і «5000».**

Чакаецца, што новыя тысячныя і пяцітысячныя банкноты паступяць гэтымі днямі ў банкі, а ўжо адтуль яны трапяць у кішэні беларусаў.

На пытанне: *«Навошта трэба ўводзіць новыя купюры, за якія ўжо амаль нічога нельга купіць?»* супрацоўнікі Нацбанка адказалі, што проста *«адбылася планавая замена старых, няякасных разліковых білетаў на новыя»*. Пры гэтым у Нацбанку палічылі, што некаторыя элементы афармлення банкнотаў таксама «састарэлі» і таму патрабуюць мадыфікацыі.

У афіцыйным паведамленні Нацбанка пра ўвядзенне новых банкнотаў падкрэсліваецца, што *«колер і графічнае выкананне разліковых білетаў новага ўзору максімальна захаваныя»*. Тым не меней, адрозненні ёсць. Напрыклад, згодна з паведамленнем, новая тысяча будзе аднаго памеру з пяццю тысячамі.

Можна лічыць, што праграма «паляпшэння» выгляду беларускіх грошай пачалася. Нават калі не кранаць банкноты па сто, дзвесце і пяцьсот рублёў, то «састарэлі» на сённяшні дзень разліковыя білеты па дваццаць і па пяцьдзесят тысяч рублёў. Нагадаем, што на абодвух прысутнічае аўтограф тагачаснага старшыні Нацбанка і цяперашняга апазіцыянера Станіслава Багданкевіча, а на дваццаці тысячах — яшчэ і «Пагоня». Такім чынам, з усіх банкнотаў, што ходзяць сёння, цалкам адпавядае ідэалагічным патрабаванням рэжыму толькі купюра ў сто тысяч рублёў — найбуйнейшая беларуская купюра, эквівалентная цяпер 1 долару ЗША.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Патрыярх прыедзе паглыбляць інтэграцыю

**У чацвер у Мінск прыбывае патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II.**

Як сцвярджаюць афіцыйныя крыніцы, падчас сустрэчы з беларускім паслом у Маскве патрыярх выказаў «глыбокую сімпатыю да палітыкі Лукашэнкі» і падкрэсліў, што ягоны трэці па ліку візіт у Беларусь «паслужыць паглыбленню інтэграцыі Расіі і Беларусі».

Як нам паведамілі ў прэзідэнцкай прэс-службе, кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы прыляціць «на сваім самалёце». Па дарозе з аэрапорта ў сталіцу ён зробіць прыпынак у вёсцы Каралёў Стан, а таксама заедзе на будоўлю Мінскага дома міласэрнасці. А потым патрыярх Алексій II і ўвесь сінод пад кіраўніцтвам Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі мітрапаліта Філарэта адправяцца ў лукашэнкаўскую рэзідэнцыю на ўрачысты прыём. Затым запланавана наведванне будоўлі храма ў вайсковай частцы ў вёсцы Аколіца, некаторых мінскіх прыходаў і помніка «афганцам» у Траецкім прадмесці.



*Патрыярх Алексій II і прэзідэнт А.Лукашэнка. (Здымак з архіва.)*

У Віцебску патрыярх Алексій II плануе асвяціць камень у падмурку Свята-Успенскага сабора. Ён наведае выхаваўча-працоўную дзіцячую калонію і сустрэнецца з жыхарамі Віцебска ў тэатры імя Якуба Коласа.

Кульмінацыяй знаходжання ў Полацку стане ўздзвіжанне патрыярхам крыжа Еўфрасінні Полацкай, копію якога зрабіў брэсцкі майстар Мікалай Кузьміч. У манастыры маскоўскі госць закладзе капсулу на месцы ўзвядзення новага будынка, потым наведае музей кнігадрукавання і полацкі Сафійскі сабор.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*З дня забойства Дзмітрыя Арцымені мінула роўна пяць гадоў*

## Куля для старшыні аблвыканкама

Дзмітрый Арцыменя — дэпутат ВС, старшыня Гродзенскага аблвыканкама быў забіты 20 верасня 1993 года. Труна з целам была вынесеная да помніка Леніну для развітальнай цырымоніі, ніколі больш на плошчы не збіралася такая вялікая колькасць гродзенцаў, як тады.

Забіты ён быў каля ўласнага дома. Злачынства дагэтуль не раскрытае. Час ад часу паступаюць лісты, аўтары якіх сцвярджаюць, нібыта ім штосьці вядома пра забойства. Прычым пішуць часцей зняволеныя, якія знаходзяцца ў турмах. Апошнім разам такая заява паступіла ад мужчыны, які асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Відавочна, што яму хацелася б адцягнуць дату выканання прысуду. Аднак кожная версія ўсё адно правяраецца, хоць следства па справе забойства Арцымені на сённяшні дзень прыпыненае. З дасведчаных крыніцаў нам удалося атрымаць інфармацыю аб ходзе расследавання гэтага злачынства.

### Забойца знік

У той вечар, у 21 гадзіну Дзмітрый Арцыменя выйшаў са свайго дома ў цэнтры горада на вул. Астроўскага, каб паехаць на дачу. Ён быў у адпачынку. У руках трымаў скрынку з флянсамі (рассадай) клубніцаў. Невядомы падышоў да яго і стрэліў у левае плячо зблізку, прыблізна з 10-15 сантыметраў. Куля выканала вельмі дзіўную траекторыю, наўскасяк трапіўшы ў ключыцу, рэбры, пазваночнік і на выйсці загрузла ў паясніцы пад кашуляй. Куля была мельхіёравай. Калібр 7.65. Гільзу знайшлі побач. На той час існавала прыкладна 25 мадэляў замежных пісталетаў з такім калібрам. Зброю забойца не пакінуў на месцы злачынства. Ці быў ён прафесійным кілерам? Тут ёсць пытанні. Прафесіяналы звычайна абавязкова дабіваюць ахвяру «кантрольным» стрэлам у галаву. Можа яму штосьці перашкодзіла? Здаецца, не. Магчыма, ён проста спалохаўся. Але прафесіянальныя забойцы не палохаюцца. Акрамя таго, яны часта пакідаюць зброю там, дзе яна была выкарыстаная.

Яшчэ такая абставіна. Пасля стрэлу ў плячо часта выжываюць, прафесіянал павінен быў бы пра гэта ведаць. Арцыменя загінуў таму, што куля пачала блукаць у целе, прабіла сардэчную артэрыю, і ён памёр ад крывазліцця. Яго маглі ўратаваць толькі, калі б ён адразу апынуўся на апэрацыйным сталe. Трэба сказаць, што ён памёр не ў тую ж секунду, а паспеў ад весніц вярнуцца да ганку, падняцца і нешта выгукнуць. Дома глядзелі тэлевізар жонка, яе маці і нявестка. Апошняя была цяжарнай. Яна стала выклікаць хуткую дапамогу, а ёй адказвалі па тэлефоне: «Дзяўчынка, не балуйся», і хуткую так і не ўдалося выклікаць. Тады жанчыны здагадаліся націснуць сігнальную кнопку, якая была ў доме. Адразу прыбыла ахова, якая і выклікала медыкаў, аднак было ўжо занадта позна.

Злачынцы (а іх было, безумоўна, некалькі) зніклі бясследна. Праўда, пошукавым групам удалося высветліць, што некалькі дзён напярэдадні Арцыменю цікавалі. Гараджане бачылі некалькі групаў маладзёнаў спартовага выгляду на сучасных машынах, якія падоўгу знаходзіліся недалёка ад дома. Аднак ні сям'я, ні сам забіты сачэння не заўважылі. У адным з суседніх дамоў быў узламаны люк на дах. Такім чынам, удалося высветліць, што яго збіраліся застрэліць з адлегласці, але добраму агляду перашкаджала груша. Можна зрабіць выснову, што злачынства рыхтавалася доўга і вельмі дбайна.

Паколькі забіты быў дзяржаўным чыноўнікам і палітычным дзеячам, была распачатая крымінальная справа аб тэрарыстычным акце. Правяраліся ўсе тэарэтычна магчымыя версіі забойства: па палітычных матывах, па асабістых, унутрысямейных, з-за рэўнасці, крымінальныя разборкі і, нарэшце, забойства псіхічна хворым чалавекам.

*(Працяг на стар. 2)*

## У гэтым уся соль?

**У тры–чатыры разы павялічыўся продаж солі ў Магілёўскай вобласці.**

Намеснік старшыні аблвыканкама Станіслаў Гур'янаў тлумачыць ажыятажны попыт на соль «расійскім фактарам». Менавіта таму соль апынулася сярод тых харчовых тавараў, на вываз якіх уведзеныя абмежаванні — не больш 1 кг. Нельга вывозіць больш за 5 карабкоў запалак, 2 бутэлькі мінеральнай вады і 10 курыных яек. А вось цукар, шампанскае, маянэз, гарбату і каву, воцат, крупы, муку, макароны вывозіць забараняецца пад любым выглядам.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*У вясковых крамах – хоць шаром пакаці. Не вызначаюцца багаццем і сталічныя прылаўкі. Каб апраўдаць дэфіцыт, прыдумалі байку пра масавы вываз прадуктаў у Расію. Вывозіць, аднак, няма чаго, бо прадуктаў у краіне напросту не хапае — у гэтым уся соль.*

## Апошнія дажынкі віцэ-прэм'ера Гаркуна

**У мінулую суботу ў Нясвіжы прайшло свята заканчэння ўборкі ўраджаю «Дажынкі-98».**

Выступаючы з прамовай перад удзельнікамі свята, Аляксандр Лукашэнка падзякаваў хлебаробам за іхнюю працу: *«Не было б вашага подзвігу, нам было б вельмі цяжка. Сваёй самаадданай працай вы забяспечылі харчовую бяспеку краіны».*

Падчас святкавання лепшыя камбайнеры атрымалі каштоўныя падарункі — легкавыя аўтамабілі (12 машын), матацыклы, халадзільнікі, тэлевізары. А найлепшаму механізатару падарылі новы дом, пабудаваны на ўскрайку Нясвіжа.

Нягледзячы на ўрачыстыя прамовы кіраўнікоў і пампезнае святкаванне «Дажынак», святкаваць на самой справе няма чаго. Збожжа ва ўсіх гаспадарках сабралі толькі 5,8 мільёна тон, што амаль на мільён тон менш, чым планавалася. Ураджайнасць па Беларусі ў параўнанні з мінулым годам таксама знізілася і склала ў сярэднім 22,7 цэнтнера з гектара. У Нясвіжы А.Лукашэнка паведаміў, што ў хуткім часе пойдзе ў адстаўку віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, які курыраваў ва ўрадзе аграпрамысловы комплекс.

**Міхась КАРПОВІЧ**





*На здымках: праваслаўны бацюшка асвячае караваі новага ўраджаю (фота злева); віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун (здымак уверсе) дэманструе на «Дажынках» свае артыстычныя здольнасці.*

## Рыгоравіч не любіць паказухі

**У мінулы чацвер вёска Кунцаўшчына Мінскага раёна трапіла ў абцугі міліцэйскай аблогі. Уезд і выезд забараняліся. Менавіта ў гэты час прэзідэнт Лукашэнка наведваў аграгандлёвую фірму «Ждановічы». Кунцаўшчына — яе цэнтральная сядзіба.**

З пагорка на ўскрайку вёскі купка цікаўных назірала, як Рыгоравіч — у куртцы, як просты чалавек, і нават без шапкі — ходзіць па бульбяным полі і махае рукамі. Туды ж была сагнаная ледзь не ўся тэхніка гаспадаркі. Але ўсё разгледзець пашчасціла не кожнаму. Таму што прэзідэнт быў адрэзаны ад народа шырокай аўтамагістраллю Мінск—Гродна, а таксама міліцэйскім кардонам.

Тым часам некаторыя жыхары Кунцаўшчыны схапілі сумкі ды пабеглі ў мясцовыя крамы, спадзеючыся, што з нагоды прыезду высокага кантралёра завезлі цукар, масла, маргарын, алей, хоць які-небудзь тлушч ці белую муку. А хтосьці адкрываў кран: раптам зацурчыць гарачая вада... Аднак усіх чакала расчараванне — наш прэзідэнт не любіць паказухі.

**Ганна ШАРАМЕЦЬЦЕВА**

## «Гомсельмаш» ляжыць

### *Тэхніку нізкай якасці ніхто не хоча купляць*

**У крытычным стане знаходзіцца сёння найбуйнейшае прадпрыемства сельскагаспадарчага машынабудавання Беларусі — аб'яднанне «Гомсельмаш».**

Яно складаецца з шасці прадпрыемстваў, на якіх працуюць больш за 17 тысяч чалавек. Вытворчых магутнасці аб'яднання, кормаўборачная тэхніка якога прызначалася раней для ўсяго Савецкага Саюза, зараз загружаныя толькі на 15 працэнтаў, а «схаванае» беспрацоўе дасягае 36 працэнтаў. Але нават пры такім мізэрным аб'ёме вытворчасці тэхніка «Гомсельмаша» вызначаецца нездавальняючай якасцю.

*БелаПАН*

# Куля для старшыні аблвыканкама

(Пачатак на стар. 1)

### Асноўная версія

Ужо на наступную раніцу пачалі апрацоўваць версію, якая і стала асноўнай. 11 чэрвеня 1993 г. на мяжы з Літвой на КПП «Катлоўка» ў Астравецкім раёне былі затрыманыя чатыры цяжкагрузныя машыны. У іх знаходзілася 129 тон 900 кілаграмаў катоднага нікелю, які каштаваў па тым часе ад 600 тысяч да 1 мільёна долараў. Металічныя лісты таўшчынёй прыблізна 12 міліметраў былі складзеныя ў стосы па паддонах, якіх было больш за сто. Асноўная частка металу паходзіла з завода ў г.Манчэгорск. Праверка выявіла, што ні адпраўляльнік (у Санкт-Пецярбургу), ні атрымальнік (у Калінінградзе) не існуюць. Пазней было высветлена, што метал не трапляў транзітам праз Літву ў Калінінградскую вобласць, а грузіўся на караблі і адпраўляўся ў Заходнюю Еўропу з Літвы.

Судом нікель быў сканфіскаваны, аднак тут жа знайшоўся яго піцерскі ўладальнік, які пачаў актыўныя захады, каб вярнуць свой тавар. Пачаліся новыя судовыя разборы, пакуль не было вынесенае канчатковае рашэнне: нікель вярнуць піцерцам. Але тут сваё важкае слова сказаў кіраўнік вобласці: не зважаючы на судовае рашэнне, Арцыменя загадаў даставіць метал у Гродна, каб рэалізаваць яго праз знешнегандлёвую асацыяцыю «Нёман», у якой ён меў свае інтарэсы і якая займалася продажам канфіскаваных на мяжы кантрабандных каляровых металаў. Абураныя гаспадары быццам бы сказалі на гэта, што зараз будуць разбірацца «іншымі метадамі». Яны паявіліся ў Гродне і пераканаліся, што нікель знаходзіцца тут. Гэта было ў канцы жніўня.

### Механізм забойства быў запушчаны

Як лічыцца, рашэнне аб забойстве было прынятае напачатку верасня. Быў зроблены адпаведны «заказ». Аднак пазней заказчыкі завагаліся, у іх паявілася надзея на тое, што справу ім удасца залагодзіць мірным шляхам. Аднак ім адказалі літаральна наступнае: салідныя заказчыкі гэтак не робяць, а салідныя выканаўцы ніколі не адмяняюць дамоўленасці і заўжды даводзяць справу да канца. Маўляў, механізм ужо запушчаны. Аднак пра выканаўцаў дагэтуль вядома няшмат, ёсць толькі версіі і магчымыя падазраваныя асобы. Некалькі сведкаў бачылі, што злачынцы ўцяклі на замежнай машыне чырвонага колеру. Машына знойдзеная не была.

Што датычыць заказчыкаў, дык справа аказалася больш яснай. У Санкт-Пецярбургу існавала група афіцэраў ад маёра да палкоўніка, сярод якіх некалькі адстаўнікоў, якія за паўтара года прадалі за межы Расіі як мінімум пяць тысяч тон каляровых металаў. Спачатку яны выкарыстоўвалі для гэтага тэрыторыю Эстоніі і Латвіі, потым — Літву. Дзеля гэтага ў Калінінградскай вобласці было створана некалькі фіктыўных фірмаў. Быў адшуканы жыхар гэтай вобласці, які падрыхтоўваў нібыта прыбыццё туды грузаў. Цікава, што з гэтым чалавекам неўзабаве адбылася даволі дзіўная аўтааварыя: у дождж яго машыну саштурхнула іншая з дарогі. Загінула яго жонка, сам ён ацалеў.

### Піцерскія заказчыкі

Трэба сказаць, што ўжо праз месяц падазраваныя заказчыкі забойства былі затрыманыя ў Піцеры. Аперацыяй кіраваў начальнік мясцовай службы па барацьбе з тэрарызмам міністэрства бяспекі РФ (цяпер ФСБ). Рэч у тым, што нашы следчыя не мелі права дзейнічаць самастойна на тэрыторыі іншай дзяржавы. Каб піцерцы маглі распачаць крымінальную справу, нашы перадалі ім асноўныя матэрыялы следства. Пракурор горада выдаў тады санкцыю на затрыманне гэтых людзей і «этапіраванне» іх у Беларусь. Аднак з гэтага нічога не атрымалася. Затрыманыя мелі дзве машыны — *Volvo* і джып. Нашы ўжо збіраліся заправіць іх, каб перагнаць у Беларусь, але тут паступіла паведамленне: патрэбныя дадатковыя санкцыі, каб мець права забраць падазраваных з сабой. Некалькі дзён адбывалася перамовы на самым высокім узроўні, нават паміж старшынёй ВС С.Шушкевічам і прэзідэнтам Б.Ельцыным. Апошні даваў «дабро», але атрымлівалася, што на месца паступала супрацьлеглая каманда. Следчыя меркавалі, што каб гэтых людзей выдалі ім, следства было б даведзенае да канца. Але атрымалі ў свае рукі яны толькі аднаго беларускага грамадзяніна, які быў сярод падазраваных.

Астатніх адпусцілі на волю. Праўда, з імі беларускім следчым даводзілася яшчэ сустракацца. Не аднойчы яны выязджалі ў Піцер, дзе хоць і мелі вялікую падтрымку з боку мясцовых следчых, але ўвесь час адчувалі абмежаванасць у сваіх магчымасцях. Напрыклад, яны не мелі права выклікаць падазраваных на допыт, а маглі толькі «запрасіць» іх, а тыя рабілі як захочуць — прыйсці альбо не. Прычым падчас гутаркі маглі ўстаць і пакінуць памяшканне па сваім жаданні.

### Рэчавыя доказы зніклі

Варта адзначыць, што ў Расіі расследавалася менавіта справа аб кантрабандзе каляровых металаў, да якой былі далучаныя матэрыялы аб забойстве. Справу гэтую ўвесь час перакідалі з адной следчай установы ў другую, ніхто не хацеў ёю толкам займацца. Перашкаджала таксама рэарганізацыя, якая тады адбывалася ў праваахоўных і органах юстыцыі Расіі. Але найбольш, напэўна, на выніку, а дакладней — на безвыніковасць паўплывала тое, што падазраваныя мелі вялікія і моцныя сувязі. Толькі таму яны і не былі выдадзеныя беларускаму боку. Гэта, па-першае. А па-другое, на пэўным этапе следства нехта здолеў зрабіць ксеракопіі асноўных дакументаў справаў. Дыпламат з рэчавымі доказамі, забраны ў аднаго з затрыманых, потым быў увогуле скрадзены. А між тым, у ім знаходзіліся вельмі важныя запісы: тэлефоны і нумары машын Арцымені, каштарыс выдаткаў — колькі і каму заплаціць, у тым ліку выканаўцам... Праўда, існуюць копіі гэтых папер, якія захоўваюць юрыдычную сілу.

Тым часам у Піцеры адбываліся розныя дзіўныя справы. Напрыклад, на заўтрашні дзень прызначаны допыт падазраваных, і папка з матэрыяламі замыкаецца ў сейфе следчага пракуратуры. Аднак на наступны дзень ён не прыходзіць на працу і не з'яўляецца ўвогуле дзесяць дзён. Начальства, між тым, застаецца спакойным. Праз некалькі дзён знаходзіцца недзе ключ ад сейфа, і справу перадаюць іншаму следчаму. Першы следчы праз некаторы час выходзіць на працу і тлумачыць, што знянацку «атруціўся грыбамі», хаця выглядае цалкам здаровым. Паступова галоўны падазраваны ператварыўся толькі ў сведку злачынства. Ніколі не вызначаўшыся набожнасцю, ён раптам стаў вельмі актыўна наведваць царкву.

За гэты час зніклі і два падазраваных, якія з'яўляліся грамадзянамі Літвы. Адзін з іх адразу сам здаўся літоўскай паліцыі па іншай справе, прабыў пэўны час у турэмным ізалятары, потым быў выпушчаны і знік. Другі літовец тэрмінова з'ехаў разам з сям'ёй у далёкае замежжа.

### Следства прыпыненае

Справа аб забойстве прыпыненая і мае няшмат шанцаў на паспяховае завяршэнне, у лепшым разе, удалося б даказаць «замах на забойства» з боку вядомых следству падазраваных асобаў. Не выключана, што Арцыменю проста хацелі жорстка запалохаць, але не забіваць. Бо забіць яго было значна лягчэй за горадам, на дачы, якая знаходзілася на водшыбе, дзе ён перад тым некалькі разоў начаваў адзін, пра што злачынцам не магло быць не вядома. Магчыма, што яны хацелі прадэманстраваць яму, што нават у цэнтры горада каля яго дома адчуваюць сябе ўпэўнена, пануюць над сітуацыяй... Так ці інакш, але ён загінуў, загінуў «за метал». Следства па забойстве Арцымені стала, безумоўна, адным з самых маштабных у Беларусі. За першыя тры месяцы было дапытана 600 чалавек, а ўсяго — 1.000.

**Юрый ІВАНОВІЧ**

## Палякаў хацелі зацягнуць у «палату»

### *Дэлегацыя польскага Сейма адмовілася сустрэцца з дэпутатамі нелегітымнага парламента*

Як мы ўжо паведамлялі, на мінулым тыдні ў Беларусь прыязджалі з Варшавы польскія дэпутаты з парламенцкай камісіі па сувязях з палякамі замежжа. Апрача іншага, у іх была запланаваная сустрэча ў Саўміне са старшынёй беларускага дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацменшасцяў.

Аднак беларускія ўлады запатрабавалі ад польскіх парламентарыяў, каб яны абавязкова сустрэліся яшчэ і з членамі камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінаў, якая створаная ў лукашэнкаўскім парламенце. Польскія дэпутаты адмовіліся. Кіраўнік дэлегацыі Віт Маеўскі патлумачыў, што Польшча, як і ўся Еўропа, не лічыць Нацыянальны сход Беларусі легітымным парламентам. Адказам на такую прынцыповасць стала адмова палякам у сустрэчах з афіцыйнымі асобамі, якіх яны «прызнаюць».

Дарэчы, першую частку свайго візіту ў Беларусь польскія дэпутаты лічаць паспяховай. У Гродне яны сустракаліся з кіраўніком абласной адміністрацыі Аляксандрам Дубко, які паабяцаў, што ў Навагрудку ўсё ж будзе адчынены польскі клас. «Калі жадаючых набярэцца больш дзесяці», — паставіў умову А.Дубко. Польскія парламентары падчас візіту ўпэўніліся, што жадаючых куды больш і трэба толькі палітычная воля, каб праблема адкрыцця польскіх класаў вырашалася.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Что пишут?*

# Российская пресса о белорусских делах

Российская пресса, комментируя недавнее заявление Госдумы РФ «О мерах по укреплению Союза Беларуси и России», считает, что возможности А.Лукашенко участвовать в политической жизни России увеличиваются. Не исключено, что уже в ближайшее время, через полгода или через год, А.Лукашенко сможет стать полноправным российским политиком, отмечают «Новые Известия».

В частности, Дума решила незамедлительно созвать внеочередную сессию парламентского собрания СБиР, пригласить на нее президентов обеих стран и до 10 октября принять нормативные акты, имеющие статус законодательных рекомендаций Союза, — «О введении единого гражданства СБиР», «О государственном флаге, гимне и гербе СБиР», «О Парламенте СБиР и прямых выборов в него» для их первоочередного рассмотрения и принятия парламентами участников Союза.

По мнению российских депутатов (под обращением стоит около 300 подписей), России есть чему поучиться у соседней республики, поскольку *«патриотическая политика, проводимая в Беларуси под руководством президента А.Лукашенко, убедительно доказывает свою жизнеспособность и эффективность»*.

Представитель Беларуси в исполкоме СНГ Сергей Посохов сказал в интервью газете «Сегодня», что решение о едином гражданстве *«позволит объединить институт президентства двух стран»*. *«Единое гражданство позволит легитимизировать позиции президента Беларуси А.Лукашенко в российском правовом пространстве для выхода в дальнейшем на объединенные выборы Президента Союза»*. Правда, при этом Посохов подчеркнул, что он выражает *«только свою личную позицию»*. Развивая идею будущего объединения двух славянских государств, С.Посохов не исключил, что *«выход Лукашенко на политическую арену России будет встречен с большой долей отторжения из-за личных амбиций московской элиты»*.



*Сергей Посохов.*

Московский журнал «Новое время» опубликовал материал о «втором бюджете Беларуси», пояснив при этом, что таким термином в РБ обозначают черную кассу президента, из которой оплачиваются все его политические начинания: от подарков учителям и обеспечения всенародных собраний до приемов российских губернаторов. Многие полагают, пишет «Новое время», что второй бюджет сравним с государственным, который составляет около 7 млрд. долларов. Более трезвые люди оценивают его в размере 2 млрд. долларов.

Как сообщает газета «Русский телеграф», исполняющий обязанности президента российско-белорусской компании «Славнефть» В.Дума заявил о пересмотре своей финансовой и инвестиционной политики.

По его словам, почти год белорусская сторона не гасит свой долг в размере 43 млн. долларов за поставленную компанией нефть на Мозырский НПЗ. Как заявил В.Дума, *«при сегодняшнем курсе доллара возвращение Беларусью долга позволило бы «Славнефти» практически полностью рассчитаться с федеральным бюджетом России, задолженность перед которым составляет 444 млн. рублей»*. Новый глава «Славнефти» сообщил также, что компанией поставлены более жесткие условия оплаты поставок нефти на белорусский НПЗ.

До конца сентября правительство Беларуси должно представить свои предложения по погашению задолженностей. Однако окончательного решения вопроса можно ожидать только после окончательного утверждения нового президента компании, которое пройдет на внеочередном собрании акционеров 3 октября. Как стало известно, Беларусь, владеющая 10,8% акций «Славнефти», намерена голосовать за альтернативную кандидатуру бывшего президента компании А.Фомина, который более лояльно относится к долгам РБ.

*Подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Бандиты контролируют даже займы МВФ?

**На территории России в настоящее время действуют более 12 тысяч преступных групп, утверждается в секретном докладе Федерального бюро расследований США, ознакомиться с которым удалось журналистам телекомпании *ABC*.**

Как подчеркивает телекомпания, число бандитских группировок увеличилось как минимум в три раза с 1992 года. *«Эти группировки становятся все сильнее и сильнее»*, — приводит *ABC* мнение специалиста по российской организованной преступности профессора Американского университета Эмилио Виано. — *Они берут под контроль все, начиная от торговли наркотиками, проституции и заканчивая обменом валюты и займами Всемирного банка и Международного валютного фонда»*. Как подчеркивается в докладе ФБР, 550 российских банков находятся под контролем организованной преступности. Профессия банкира в России по своей опасности сравнима разве только с профессией сапера, отмечается в докладе.

# Клинтон – звезда голубого экрана

**Вчера были обнародованы видеозаписи августовских показаний президента США Билла Клинтона по «делу Моники Левински». Это решение принял в минувшую пятницу юридический комитет палаты представителей Конгресса США.**

По сообщениям информационных агентств, заседания юридического комитета проходили в атмосфере политического противостояния. Под давлением демократов республиканцы все же согласились вымарать в рассекречиваемых материалах 120 наиболее откровенных пассажей. В целом же, по словам председателя комитета республиканца Генри Хайда, *«демократы придерживались единого мнения не раскрывать ничего, а республиканцы — раскрыть как можно больше»*. В дополнение к документам, по которым уже вынесли постановление, комитету еще предстоит разобраться с оставшимися материалами, собранными спецпрокурором К.Старром, и принять соответствующее решение. Самое главное — комитету следует определить, соответствуют ли действительности утверждения Старра о том, будто он выявил по меньшей мере 11 эпизодов, дающих основания для импичмента президента. От этого решения во многом будут зависеть дальнейшие действия всей палаты представителей.



Естественно, что решение об обнародовании показаний Клинтона вызвало настоящий ажиотаж среди американских телевизионных компаний. В частности, некоторые из них решили отредактировать видеосъемку, вырезав из нее непристойные детали. Однако другие, как, например, всемирно известная *CNN*, заявили, что покажут четырехчасовую запись целиком. По мнению представителей *CNN*, важно именно видеть материал, а не просто читать текст показаний, так как Клинтон вопреки своему обыкновению отвечал крайне зло и эмоционально. Кроме того, расширенная запись с показаниями президента будет помещена в глобальной компьютерной сети Интернет, что автоматически делает ее доступной всему миру.

**Ольга ЛЫЧКОВСКАЯ**

# Дочь Ельцина стала баваркой?



Новые русские постепенно осваивают один из знаменитых баварских лыжных курортов — Гармиш-Партенкирхен. Вот и младшая дочка Бориса Ельцина Татьяна Дьяченко приобрела там себе дачу.

Вообще-то строение больше походит на небольшой дворец с романтической башенкой, окруженный старинными деревьями, зелеными лужайками, из окон которого хорошо видны снежные вершины близких Альп. Здесь прозрачный воздух и улыбчивые немногословные соседи.

Как сообщила «Мюнхнер меркур», «при покупке этого дома был использован любимый трюк новых русских», то есть все документы оформлены на посредников, в данном случае на одну лихтенштейнскую фирму. По сведениям этой же газеты, Татьяна Дьяченко дважды приезжала в баварские Альпы из Москвы, чтобы отдохнуть как туристка, а заодно, вероятно, подобрать себе подходящий дом. Было это на минувшие Рождество и Новый год.

Сейчас в этом доме, расположенном на *Wilhelmvon-Miller-Weg,10*, полным ходом идут реставрационные работы. Соседи, по словам корреспондентов «Мюнхнер меркур», опасаются, что вслед за богатыми русскими к ним потянется и русская мафия.

**Александр ФИТЦ**

# Холодный ветер с Востока

**Как ни старались государства Восточной Европы, входившие когда-то в советский блок, избежать последствий российских экономических потрясений, им удалось лишь несколько смягчить удар «русской дубинушки».**

Эксперты лондонской «Файнэншл таймс» рисуют довольно тревожную картину последствий российского экономического краха для стран Восточной Европы. Они уверены, что уберечься от него не смогут ни крупнейшие, ни самые мелкие представители бизнеса в этих странах. Некоторые оказываются затронутыми надвигающимся коллапсом, потому что активно торговали с Россией, а другие — из-за того, что вкладывали деньги в ее экономику.

Ветры с Востока дуют порывисто: одни страны на своем пути они сметают, а другие в то же время оставляют относительно невредимыми. В лучшем положении, по мнению «Файнэншл таймс», находятся государства, которые за период с 1989 года успешно провели реструктуризацию своих экономик, уменьшили зависимость от России и подготовились к вступлению в Европейский союз. К ним относятся Польша, Венгрия, Чешская Республика и Словения. Ну а в худшем — Беларусь и Украина, которая тоже все еще находится в самой начальной стадии экономических преобразований и почти половину своей торговли ведет с Россией.

Эксперты «Файнэншл таймс» отмечают, что географическая близость к Москве не является всегда определяющей, приводя в пример Эстонию, которая противостоит «восточной буре» успешнее, чем Латвия и Литва. В этой связи Николас Штерн, старший экономист Европейского банка реконструкции и развития, определяет в качестве критерия различия между такими государствами решительность в проведении реформ. Сегодня больше страдают те государства, которые при реформировании своих экономик испытывали колебания либо применяли половинчатые меры.

По расчетам экономистов ведущих коммерческих банков, из-за нынешнего кризиса средний показатель экономического роста государств Восточной Европы не превысит 0,5–1%, столько же прогнозируется для Балканского региона и 2% — для стран Балтии. Однако это в меньшей степени коснется стран, имеющих сегодня внушительные показатели роста, таких, как Польша и Венгрия.

Практически в каждой стране есть банки, потерявшие деньги в Москве, в основном по причине работы с российскими ценными бумагами. Так, например, по данным американского рейтингового агентства «Стандарт энд Пурз», абсолютно все латвийские банки подвержены воздействию российского кризиса.

А из других компаний, не связанных непосредственно с финансовой деятельностью, наиболее пострадавшими оказались те, которые активно торговали с Россией. Среди них венгерский производитель автобусов «Икарус», который начал возрождать свою деятельность на территории бывшего СССР, а также фармацевтический концерн «Гедеон Рихтер». Жертвой стала и чешская автомобильная фирма «Кароза», находящаяся в собственности французской компании «Рено», которая пыталась создать на территории России совместное предприятие по выпуску автобусов. В серьезном убытке оказались и владельцы гостиничных комплексов на чешском курорте Карловы Вары, одном из любимых мест отдыха «новых русских».

*По материалам газеты «Файнэншл таймс» подготовил*
**Михаил СОКОЛОВСКИЙ**

# Не вписавшиеся в крутой поворот

**Тройка прибалтийских стран сплошь и рядом ставится в пример другим посткоммунистическим странам благодаря той решительности, с которой они взялись реформировать как свою экономику, так и уклад всей своей жизни.**

Лидирование по многим экономическим показателям дает Эстонии, например, неплохой шанс уже в ближайшее время вступить в Евросоюз, о чем большинству остальных восточноевропейских стран пока остается только мечтать. Однако данные недавнего исследования, проведенного Всемирной организацией здравоохранения, дают основания предположить, что эти достижения дались эстонцам слишком высокой ценой. По крайней мере именно эстонцы в три раза более склонны к совершению самоубийств, чем большинство европейских народов. Возглавляет же европейскую «лигу самоубийц» Литва, процент самоубийц в которой приблизительно в 10 раз выше среднего по Европе.

То, что рост количества самоубийц в посткоммунистических странах связан именно со структурной перестройкой государственного строя, доказывает резкое увеличение числа самоубийств, наблюдаемое практически во всех этих странах после краха социализма. Так, например, в Литве количество самоубийц возросло с 1989 года на 70%, а в Эстонии — на 46%.

То, что население бывшего социалистического лагеря стало гораздо более склонным к самоубийству, международных экспертов совершенно не удивляет. Шок в результате серьезных экономических потрясений, утрата привычных идеалов, чувство социальной незащищенности и невостребованности, растущая и совершенно непривычная безработица оказывают разрушительное воздействие на психику как представителей молодого, так и старшего поколений восточноевропейцев.

И все же абсолютное лидирование именно балтийских стран по количеству самоубийств экспертов ВОЗ удивило. Перебрав еще несколько возможных объяснений, медики пришли к выводу, что решающую роль в данном случае играет скорость, с которой в стране происходят социальные и экономические изменения. В начале 90-х по количеству самоубийств в Европе лидировала Венгрия, которая тоже тогда гордилась очень высокими темпами экономического развития. Однако за последние несколько лет количество самоубийств там резко сократилось, прежде всего благодаря национальной государственной программе по распознаванию и лечению депрессивных состояний.

Специалисты ВОЗ считают, что если правительства прибалтийских стран примут соответствующие неотложные меры, то и у них обстановка в ближайшее время нормализуется!

*По материалам журнала «The Economist» подготовила*
**Оксана ПРИХОДЬКО**

## Кофе дешевеет

**Цены на кофе на Нью-Йоркской товарной бирже упали до минимального за почти два года уровня. Причина — рекордный урожай кофейного зерна в этом сезоне в Латинской Америке.**

Погода в Колумбии и Мексике благоприятствовала неожиданно высокому урожаю особого сорта кофейных зерен для гурманов — «арабика». Колумбия уже произвела на 25% кофе больше, чем в августе прошлого года. Даже в Гондурасе, больше известном своими банановыми плантациями, в этом году урожай кофе побил все рекордные отметки прежних лет, экспорт кофе в этом сезоне планируется увеличить на 1 млн. мешков.

Угрожающая бразильской валюте — реалу — девальвация может серьезно дестабилизировать рынок кофе. Федерация бразильских экспортеров кофе планирует собрать 35,2 млн. мешков, из которых более половины пойдет на экспорт, что еще сильнее собьет цены на мировом рынке.

## Маргарин против инфаркта

**Возможно, уже в следующем году вы сможете намазать на хлеб маргарин, специально разработанный для снижения смертности от инфаркта.**

Англо-голландская фирма «Юнилевер» начнет в 1999 году выпуск маргарина, обогащенного веществами, которые препятствуют всасыванию в кровь холестерина. Эти вещества, получаемые из соевого масла, — кампестерол, бета-ситостерол и стигмастерол, по строению молекулы похожи на холестерин. Сами они не усваиваются человеком и мешают усваиваться холестерину, который, как известно, откладывается на стенках сосудов и закупоривает их. Опыты на ста добровольцах с нормальным или слегка повышенным содержанием холестерина в крови, которые на протяжении 24 дней съедали по 30 граммов нового маргарина, показали, что содержание холестерина у них снизилось на 8,3 процента. Это при условии, что до начала эксперимента они использовали в питании простой маргарин. А у тех, кто раньше предпочитал сливочное масло, содержание холестерина снизилось на 10 с лишним процентов.

Подобный маргарин, блокирующий поступление холестерина, уже выпускается в Финляндии. Добавки, введенные в него, получают из сосновых опилок.

*По материалам зарубежной прессы*



# Научитесь просыпаться без будильника

**Научные исследования, проведенные в последнее время, наглядно продемонстрировали, что бессонница и неполадки со сном превращаются в социальную проблему, оказывая отрицательное влияние на внимательность в работе, приводя к несчастным случаям на производстве и за рулем, снижая интеллектуальные способности. Миллионы людей страдают нарушениями сна.**

В идеале специалисты рекомендуют спать 8 часов. Реальность от идеала далека. 50 процентов людей спит 7 часов, треть — 6 часов и меньше. Подсчеты свидетельствуют, что более половины работающих по нестандартному расписанию засыпают на работе, как минимум, раз в неделю. 20 процентов учащихся средних школ и вузов спят на занятиях.

Большинство людей жалуются на нехватку времени. Им надо и работать, и ходить по магазинам, и с детьми пообщаться, и дома убрать. И, наконец, просто личное время тоже нужно. Поэтому люди экономят на сне.

Но экономия эта опасна. Если бы по дорогам мы ездили так же, как «ездим» на себе, нас бы давно привлекли к суду за создание аварийной ситуации. «Недосып», прежде всего, разрушает иммунную систему — в результате малоспящие теряют устойчивость к вирусным инфекциям.

Восемь часов сна, по мнению ученых, делают период бодрствования максимально продуктивным. Специалисты советуют прибавить к рациону сна, каким бы он ни был, по крайней мере еще час. Сверхзадача состоит в том, чтобы научиться просыпаться поутру в одно и то же время без будильника. Помните, что при наличии высокого жизненного тонуса времени в сутках хватит на все. Добавив ко сну всего час, вы все сделаете значительно быстрее и продуктивнее.

Многие люди просто не осознают, насколько серьезно нарушен их сон. Часто можно услышать следующее: «У меня нет проблем со сном, я засыпаю едва коснувшись головой подушки». Между тем человеку, если он не переутомлен, требуется обычно 15–20 минут, чтобы заснуть.

Желающим проверить, достаточно ли они спят, ученые предлагают простой тест: Быстро ли вы засыпаете, ложась в постель? Засыпаете ли вы перед телевизором или после принятия пищи? Слипаются ли у вас глаза на скучных собраниях или после малой дозы алкоголя? Утвердительные ответы на эти вопросы являются «лакмусовой бумажкой» сильного переутомления. Было выявлено четыре показателя, которые характеризуют бессонницу. Прежде всего, трудно заснуть тогда, когда на это уходит более получаса. Затем, частое просыпание среди ночи. Третий фактор — сон нормальный по длительности, но не дающий восстановления сил, не устраняющий вечернюю усталость. И, наконец, слишком раннее пробуждение утром, когда вновь заснуть почти невозможно.

Но что делать тем, кто применяет все самые изощренные средства для того, чтобы хоть на миг погрузиться в объятия Морфея? Таким людям медики рекомендуют хорошо испытанное средство — не пить кофе после 2 часов дня, принять перед сном теплую ванну, сделать пару легких упражнений (снимающих напряжение), прогуляться с собакой вокруг дома или почитать что-нибудь, не относящееся к работе. Последнее действует как замечательное снотворное.

**Василий ОСТРОВСКИЙ**

# Электронный сыщик

## *Он может узнать преступника в толпе*

По заказу американской армии и в сотрудничестве со специалистами по искусственному интеллекту из США Рурский университет в Бохуме (Германия) создал компьютерную программу для распознавания лиц. Компьютер, снабженный телекамерой и этой программой, может узнавать в толпе, идущей по улице, разыскиваемых преступников.

Программа работает аналогично тем участкам мозга человека, которые отвечают за узнавание знакомых лиц. На каждом лице, мелькнувшем в толпе, промеряются 70 определенных точек, главным образом в районе глаз, носа и рта, причем по каждой точке получается 80 числовых данных. Тут же они сравниваются с соответствующими цифрами по разыскиваемым лицам. Компьютер (обычный «Пентиум») обрабатывает по 12 телекадров в секунду и может распознать до восьми человек в минуту, даже если они отпустили трехдневную щетину или нацепили очки.

Правда, сложность в том, что только в США защитники закона разыскивают около 40 тысяч человек, и база данных для поиска через телекамеры должна быть очень объемистой. Но уже сейчас система распознавания лиц может быть использована, например, в проходной завода вместо вахтера.

**Б.П.**

# Пилотка «дуче» нашла новую лысину



В конце войны виллу «Карпена» — резиденцию Бенито Муссолини заняли англичане. Чем они там поживились, истории неизвестно. Но был среди них любознательный пилот Ричард Бек, догадавшийся прихватить с собой колоритные «сувениры»: пилотку «дуче», его прижизненные издания и несколько фотографий из личного архива, которые никогда не публиковались. Спустя пятьдесят с лишним лет, в августе 1998 года неявный хозяин фашистских раритетов пустил их с молотка. Может быть, старику понадобились деньги. По крайней мере за полвека вещи Муссолини стали антиквариатом. Да и в людских сердцах исчезло чувство ненависти к «первому фашисту мира». Купивший знаменитую черную пилотку итальянского диктатора остался инкогнито.

**Анастасия АСКОЧЕНСКАЯ**

*На снимке (из архива): Муссолини награждает офицеров своей армии.*

# Даты і лёсы

## *22 верасня*

**1888.** Міжнародная канферэнцыя фізікаў у Парыжы зацвердзіла тэрміны асноўных параметраў электрычнасці — ом, вольт і ампер.

**1937.** У Мінску былі расстраляныя 16 «контрэвалюцыянераў» (у тым ліку два сыны былога прэзідэнта АН БССР У.Ігнатоўскага — Валянцін і Юрый), якія нібыта рыхтавалі тэрарыстычныя акты супраць кіраўнікоў Беларусі, каб звергнуць савецкую ўладу і ўсталяваць буржуазна-дэмакратычную рэспубліку. Ніякіх доказаў віна ватацці арыштаваных следства не знайшло, але санкцыю на расстрэл далі наркам унутраных справаў і пракурор СССР.

**1943.** Савецкія войскі вызвалілі ад гітлераўцаў першы райцэнтр Беларусі — Камарын.




**1980.** Дэлегаты 36-ці рэгіянальных філіяў незалежных польскіх прафсаюзаў сабраліся ў Гдыні і аб'ядналіся пад назвай «Салідарнасць». Старшынёй новага прафсаюзнага аб'яднання быў абраны Лех Валенса. Праз год «Салідарнасць» мела ў сваіх шэрагах ужо 10 мільёнаў членаў.

## *23 верасня*

**63 да нашай эры.** Нарадзіўся першы рымскі імператар Гай Актавіян Аўгуст — прыёмны сын і спадкаемца Юлія Цэзара. У свой гонар змяніў лацінскую назву жніўня «секстылій» на «аўгуст», што азначае «абагоўлены».

**1768.** Расійскія войскі на чале з А.Суворавым раптоўна напалі ўначы на лагер 3-тысячнага войска Барскай канфедэрацыі, якая выступала супраць умяшальніцтва Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. У гэтым баі каля в.Сталовічы (Баранавіцкі раён) 2 тысячы канфедэратаў загінулі, тысяча трапіла ў палон. Вялікаму гетману літоўскаму М.К.Агінскаму пашчасціла ўцячы.

**1793.** Гродзенскі сойм (які праходзіў у палацы, абкружаным расійскімі войскамі) маўкліва зацвердзіў другі падзел Рэчы Паспалітай. Гэты гвалтоўны акт выклікаў абурэнне шырокіх слаёў грамадства: вясной 1794 г. пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі.

**1908.** У Горкаўскай вобласці нарадзіўся першы сакратар ЦК КПБ (1950—1956 гг.), а потым шматгадовы міністр знешняга гандлю СССР Мікалай Патолічаў.

**1919.** Савецкі ўрад выдаў дэкрэт *«Аб абавязковай рэгістрацыі былых памешчыкаў, капіталістаў і асобаў, якія займалі адказныя пасады пры царскім і буржуазным ладзе»*. Тым, хто ўхіліцца, пагражала пакаранне як дзяржаўным злачынцам. Неабходнасць рэгістрацыі тлумачылася тым, што нібыта *«буржуі на сваім тайным з'ездзе рыхтуюць захоп фабрыкаў і заводаў, якія належаць працоўнаму народу»*.

**1938.** У Нью-Йорку падчас Сусветнага кірмашу была ўрачыста закладзеная капсула для нашчадкаў, якую належыць ускрыць у 6939 годзе. У капсулу паклалі жаночую шляпку, мужчынскую люльку для курэння і 1.100 мікрафільмаў.

**1943.** Нарадзіўся папулярны іспанскі спявак Хуліо Іглесіас.

**1973.** Дзесяткі тысяч маленькіх жабак упалі з неба на вёску Брыньёль на поўдні Францыі. Вядома шмат выпадкаў, калі з неба ішлі «дажджы» з рыбаў, змеяў і г.д. На думку некаторых спецыялістаў па паранармальных з'явах, менавіта гэтым шляхам і з'яўляюцца на Зямлі новыя біялагічныя віды: іх выпускае нейкая нябесная фабрыка.

**1973.** Аргенцінскі дыктатар Хуан Перон, які вярнуўся на радзіму пасля 18-гадовага выгнання, быў зноў абраны прэзідэнтам краіны.

**1991.** Арменія абвесціла сваю незалежнасць.

**1994.** Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў (па ўласнай ініцыятыве) сваю першую справу. Суд прызнаў неадпаведнымі Канстытуцыі нормы Кодэкса законаў аб працы, якія дазвалялі звальняць работніка з той прычыны, што ён дасягнуў пенсійнага ўзросту.

## *24 верасня*

**1824.** Пачалося будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які ў 1839 г. злучыў Нёман і Віслу.

**1933.** У мінскім Доме пісьменніка прайшла вечарына, прысвечаная адкрыццю Беламорска-Балтыйскага канала. Выступілі пісьменнікі, якія ездзілі на Беламорбуд: Я.Купала, А.Александровіч, І.Харык, П.Галавач, А.Кучар (амаль усе потым былі рэпрэсаваныя). Уражанні Янкі Купалы ад паездкі былі надрукаваныя ў «Літаратурнай газеце» пад назвай «Цуд, створаны бальшавікамі».

**1970.** Вялікабрытанія абвесціла пра высылку 105 савецкіх дыпламатаў, абвінавачаных у шпіянажы.

**1993.** Краіны СНД заснавалі эканамічны саюз (Украіна і Туркменістан пагадзіліся далучыцца да яго толькі ў якасці асацыяваных членаў).

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1238 Нумар падпісаны ў друк 21/09/98 (15:30) Наклад — 19 780.